Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 400.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Аўторак, 14 красавіка 1998 г. | № 38 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Мінюст пагражае партыі БНФ ліквідацыяй

**Партыя БНФ атрымала ад міністэрства юстыцыі папярэджанне.**

Чыноўнікі сцвярджаюць, што партыя БНФ выкарыстоўвае не сваю пячатку, а пячатку грамадскага руху БНФ. Акрамя таго, у пікетах, арганізаваных Народным Фронтам, фігуруе незарэгістраваная сімволіка, у прыватнасці, бел-чырвона-белыя сцягі. У лісце з мінюста паведамляецца, што калі франтаўцы атрымаюць у бягучым годзе яшчэ адно папярэджанне, будзе распачатая працэдура ліквідацыі БНФ як партыі.

Адзін з лідэраў партыі БНФ Лявон Баршчэўскі назваў мінюстаўскае папярэджанне *«зачэпкай»*, зробленай з мэтай *«уцягнуць Фронт у папяровыя гульні»*. *«Той факт, што Пагоня на пячатках партыі БНФ аналагічная Пагоні з пячатак БНФ як грамадскага руху, зусім не азначае, што выкарыстоўваецца адна і тая ж пячатка*, — падкрэсліў Баршчэўскі. — *Пячатка партыі БНФ легітымная, бо на яе выраб дадзены дазвол у міліцыі»*. Калі мінюст не здыме свае абвінавачванні, Народны Фронт будзе аспрэчваць іх праз суд.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Караджыч хаваецца ў Беларусі?

**Былы лідэр баснійскіх сербаў Радаван Караджыч, які абвінавачваецца гаагскім Міжнародным судом у ваенных злачынствах, хаваецца хутчэй за ўсё ў Беларусі.**

Гэтую сенсацыйную навіну паведаміла на мінулым тыдні ўплывовая французская газета *Le Monde*, спаслаўшыся на інфармацыю, атрыманую ад французскіх спецслужбаў. Мы вырашылі пацікавіцца, што думаюць у беларускіх уладных структурах наконт паведамлення французскай газеты.

Рэакцыю чыноўнікаў з міністэрства замежных спраў, КДБ і Савета бяспекі прадугадаць было нескладана. Яны ні пацвердзілі, ні абверглі інфармацыю адносна магчымага знаходжання Радавана Караджыча на тэрыторыі Беларусі. Прадстаўнік Савета бяспекі нават пакрыўджана сказаў, што з такім самым поспехам можна сцвярджаць, што Караджыч знаходзіцца на тэрыторыі якой-небудзь з афрыканскіх краінаў. Цалкам магчыма, што інфармацыя газеты *Le Monde* не адпавядае сапраўднасці. Аднак, ведаючы прыхільнасць прэзідэнта Лукашэнкі да падобнага роду «славянскіх братоў», нельга выключаць і таго, што прыезд у Беларусь Радавана Караджыча сапраўды меў месца.

Радаван Караджыч.

Тым часам прадстаўнік Дзярждэпартамента ЗША Джэймс Рубін у мінулую сераду публічна параіў былому лідэру баснійскіх сербаў здацца ў рукі правасуддзя, бо «няма ніводнага месца на зямлі, дзе б ён мог схавацца».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Ёсць ідэя – няма грошай

**Прэзідэнцкая палата ратыфікавала беларуска-расійскую дамову аб «саюзнай» тэлерадыёкампаніі.**

Паводле дамоўленасці, вяшчанне павінна было пачацца яшчэ 1 лютага, аднак і цяпер ніхто не можа назваць дату, калі запрацуе саюзны эфір. Плануецца, што вяшчанне будзе весціся на другім расійскім тэлеканале і на першым канале Беларускага тэлебачання — шэсць разоў на тыдзень па дзве гадзіны штодня. Аднак, як сказалі нам у кіраўніцтве Беларускага тэлебачання, пра сумесную тэлерадыёкампанію гаварыць рана. Каб яе стварыць, патрэбныя значныя фінансавыя выдаткі. У дамове адзначаецца, што фінансаваць новы сродак масавай інфармацыі будзе бюджэт саюза, а таксама нацыянальныя бюджэты абедзвюх краінаў. Дакладная сума выдаткаў пакуль нават не падлічаная.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



*У рымска-каталіцкай традыцыі колер светлага свята Уваскрасення Хрыстова — белы.*

(Працяг тэмы на стар. 4)

НАПАМІНАК

## Злачынствы без пакарання

12 красавіка ў Мінску не толькі святкавалі каталіцкі Вялікдзень ды вербную нядзелю. Гэта быў таксама дзень успамінаў пра падзеі трохгадовай даўніны, калі ў Вярхоўным Савеце ўперашыню была ўжытая сіла супраць апазіцыі — па загаду прэзідэнта Лукашэнкі былі жорстка збітыя і дэпартаваныя з Авальнай залы 19 парламентарыяў, якія абвясцілі галадоўку пратэсту супраць рэферэндуму па дзяржаўнай мове і сімволіцы.

Па ініцыятыве групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га скліканна, у нядзелю на мінскай плошчы Свабоды быў наладжаны пікет. Плакаты нагадвалі пра падзеі 1995 года і заклікалі абараняць сённяшніх вязняў рэжыму.

Былы дэпутат Алег Трусаў, якому тры гады таму разам з іншымі дэпутатамі-апазіцыянерамі давялося зведаць спецназаўскія кулакі і дубінкі, мяркуе, што *«менавіта пасля той акцыі Лукашэнка развязаў сабе рукі і пачаў тварыць беззаконне»*. *«Фактычна тры гады рэжым займаецца той жа справай, што і ноччу з 11 на 12 красавіка: б'е безабаронных людзей, хаваючы свае твары пад маскай. Перамогі ім такімі метадамі не здабыць»*, — лічыць Алег Трусаў.

Як склаліся лёсы ўдзельнікаў тых падзеяў? *«Большасць з нас дагэтуль займаецца палітычнай дзейнасцю*, — сказаў Трусаў. — *Ніхто з 19-ці дэпутатаў справе абароны Бацькаўшчыны не здрадзіў. На сённяшнім пікеце было дзевяць былых дэпутатаў, астатнія проста не ў Мінску, у тым ліку двое ў Амерыцы...»*

Як вядома, Пракуратура РБ спыніла расследаванне па справе аб збіцці дэпутатаў, ніхто тады не быў пакараны за насілле над парламентарыямі. Але былыя дэпутаты перакананыя, што рана ці позна следства па справе будзе аднаўленае і вінаватых будуць судзіць.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*Прадстаўніцтва Міжнароднага валютнага фонду спыняе сваю дзейнасць у Беларусі з 1 ліпеня*

## МВФ развітваецца

Старшыня пастаяннага прадстаўніцтва Фонду Рычард Хаас вяртаецца ў Вашынгтон, а адказным за Беларусь прызначаецца Адальберт Кнобл, прадстаўнік МВФ у Літве.

Прадстаўніцтва Міжнароднага валютнага фонду працавала ў Мінску з кастрычніка 1992 г. За пяць гадоў дзейнасці Фонду ў Беларусі МВФ абавязаўся выдзеліць дзве траншы крэдытаў: у 1993 г. на суму 98 мільёнаў долараў і ў 1995 г. — на 101 мільён. Акрамя гэтага, у канцы 1995 года паміж беларускім урадам і МВФ была дасягнутая дамоўленасць на прадастаўленне нашай краіне крэдыту ў 300 мільёнаў долараў.

Аднак у рэальнасці з гэтых крэдытаў Беларусь атрымала толькі 70 мільёнаў — дзякуючы аўтарытэту тагачасных старшыні Нацбанка Станіслава Багданкевіча і кіраўніка ўрада Міхаіла Чыгіра. Пазней эканамічная палітыка нашай дзяржавы пайшла ў разрэз з рэкамендацыямі МВФ, і супрацоўніцтва было фактычна спыненае. Беларускія ўлады нядаўна прапаноўвалі прадстаўнікам гэтай міжнароднай фінансавай арганізацыі аднавіць праграму супрацоўніцтва, але МВФ заявіў, што кіраўніцтва Беларусі павінна спачатку прадэманстраваць жаданне праводзіць рэальныя рэформы — у прыватнасці, забяспечыць незалежнасць Нацыянальнага банка і паскорыць прыватызацыю.

Супрацоўнікі мінскага офіса МВФ лічаць бессэнсоўным заняткам працягваць працу ў краіне, улады якой не жадаюць рэфармаваць сваю эканоміку. Такім чынам, Беларусь стане трэцяй постсавецкай краінай пасля Узбекістана і Туркменістана, у якой няма ўзгодненай праграмы супрацоўніцтва з МВФ.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### *Клопаты*

16 красавіка прэзідэнт Лукашэнка правядзе важную дзяржаўную сустрэчу — прыме французскую эстрадную спявачку Патрысію Каас, якая ў гэты ж дзень дасць канцэрт. А на наступны дзень, у пятніцу, натхнёны Рыгоравіч будзе выступаць сам — са штогадовым пасланнем да дэпутатаў свайго парламента.

### *Беспрацоўе*

Сёння ў Беларусі 126 тысячаў афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных, але толькі 42 працэнты з іх атрымліваюць дапамогу па беспрацоўі, якая складае цяпер у сярэднім 300 тысячаў рублёў. Дапамогу выплачваюць толькі тым, хто адпрацуе пэўную колькасць дзён на «грамадска карысных работах».

### *Прыватызацыя*

З пачатку правядзення малой прыватызацыі ў Беларусі прыватызавана 1.416 прадпрыемстваў, або 42 працэнты аб'ектаў камунальнай уласнасці. Наперадзе ідзе Ваўкавыск — тут прыватызаваны 71 працэнт аб'ектаў камунальнай уласнасці. 54% — у Кобрыне, па 50 працэнтаў — у Брэсце і Оршы, 49 — у Лідзе, 48 — у Мінску, па 44 — у Гомелі і Магілёве, 43 — у Баранавічах, 37 — у Гродне, 35 працэнтаў — у Віцебску.

### *Кошты*

З 16 красавіка давядзецца плаціць за кватэру і камунальныя паслугі па новых тарыфах. Кошты павышаныя на 20-25%.

## «Валадарку» распісалі




***У ноч з пятніцы на суботу на сценах мінскай турмы, што на вуліцы Валадарскага, з'явіліся надпісы «Свабоду Севярынцу». Лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец утрымліваецца тут ужо дзесяць дзён, яго абвінавачваюць у "арганізацыі масавых беспарадкаў" 2 красавіка ў Мінску.***

*На здымку: сябры Паўла Севярынца «аздабляюць» сцены турмы.*

## «Свята працы» пад прымусам

**Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў лічыць, што Савет міністраў парушыў заканадаўства, выдаўшы пастанову «Аб правядзенні 11 красавіка рэспубліканскага суботніка».**

Як адзначаецца ў прафсаюзным прэс-рэлізе, гэтая пастанова яўна накіраваная на прымусовае прыцягненне да працы ў выхадны дзень. Між тым, у адпаведнасці з арт.63 Кодэкса законаў аб працы прыцягненне да працы ў выхадныя дні дапускаецца толькі са згоды работніка, за выключэннем выпадкаў, калі гэта неабходна для пераадолення стыхійнага бедства, вытворчай аварыі, прадухілення няшчасных выпадкаў, або калі такое прадугледжваецца калектыўнай дамовай. Акрамя таго, арт.64 Кодэкса законаў аб працы прадугледжвае, што праца ў выхадны дзень, па згодзе бакоў, кампенсуецца прадастаўленнем іншага дня адпачынку або грашовай кампенсацыяй у падвойным памеры.

З гэтага вынікае, што так званы суботнік — яўнае парушэнне заканадаўства. Мала таго, што работнікаў незаконна прымушаюць працаваць у выхадны дзень, але яшчэ і прымусова адбіраюць зарплату за адзін дзень.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Дапамажы БПСМ сваім рублём

**На некаторых прадпрыемствах Магілёва з заробкаў усіх маладых людзей пачалі вылічваць «узносы члена БПСМ».**

Грошы бяруць нават з тых, хто не мае да БПСМ ніякага дачынення. Па звестках карэспандэнта НАВІНАЎ, гэта практыкуецца на магілёўскіх заводах «Тэхнапрыбор», «Сельмаш» і некаторых іншых.

**Іван ЗАСАДА**




*Якая плата — такая і праца: адзін махае, шасцёра назірае.*

*Здымак зроблены ў Мінску ў суботу 12 красавіка.*

## Кіраваць... праз маць

З дзяцінства памятаю нашага вясковага конюха, у якога з нагруднай кішэні зашмальцаванага пінжака заўсёды тырчэлі некалькі самапісак — а як жа: чалавек пры пасадзе! А коні заўсёды ў гнаі ды галодныя. І колькі такіх «кіраўнікоў» я бачыў з той пары — не злічыць. Але (вось парадокс!) без іх справа стаяць будзе.

Канечне, улада без пыхі не бывае, але ж і пыжыцца трэба ў меру. А то вылазіць на трыбуну нейкі там парторг нейкага там «Маяка камунізму», у якім каровы равуць ад голаду, і распавядае — і прыгожа гаварыць! — як нам добра жыць. А будзе яшчэ лепей. Няважна, што калгасныя пуні пустыя і без даху, з якога здзёрлі ўсю салому, каб датрымаць безмалочных рагуль да першай травы.

А злез «дзеяцель» з трыбуны і пайшоў кіраваць: усё праз маць, маць, маць... А як жа іначай? Ударны фронт! І так не толькі ў калгасе, на заводзе ці ў навуковым інстытуце. Так паўсюль, па ўсёй краіне. Яшчэ з савецкіх часоў: чым дурнейшы чалавек, тым вышэйшая пасада. Адзін бульдозерам трушчыць «частные» цяпліцы, другі — мастацкую выставу, трэці — паварочвае рэкі.

Думалі схапіць Бога за бараду, а апынуліся ў глыбокай лужыне. Прычым раней гэта тлумачылі «исторической необходимостью». Хай бы там і сядзелі, але ж зноў павылазілі. Дзеля якой «необходимости»?

Пасля абвяшчэння незалежнасці была надзея, што Беларусь абтрасе ўвесь гэты бруд, але не спраўдзілася. Мы здабылі сабе правадыра, якому хочацца быць «всех круче». Маюцца на ўвазе ўсе партыйныя генсекі — усе, хто ў Крамлі сядзеў, сядзіць ці сядзець будзе. А беларускі электарат у ладкі пляскае: як наш усіх абскакаў! А таму — няхай будуць вам суботнікі ў велікодную суботу, падарунак ад праваслаўнага атэіста. Нашто ж той Вялікдзень, калі народ абавязаны яму — Богу жывому?

«Народ, — кажа Бог, — меня поддерживает». Падобна, так і ёсць. Адна радасць была глядзець, як мінчукі высыпалі на гэты «прэзідэнцкі» суботнік. З мётламі, вёдрамі, шуфлямі. А сярод іх не толькі люд просты, рабочы, але і чэсныя журналісты, і нейкія там дзяржсаветнікі, і прафесары, — словам, людзі інтэлігентныя. Ну які, скажыце, сучасны студэнт стане паважаць «саўковага» прафесара, у якога ні пачуцця годнасці (я ж прафесар!), ні смеласці (я ж стары, заслужаны — а вы мне лапату)?

Што ж гэта за мярзотнасць такая? Што гэта за брыдота, супраць якой людзі хрышчоныя і сумленныя слова сказаць баяцца? Адкуль гэта нахабства, з якім урад аб'яўляе суботнікі, маючы на ўвазе, што ўся краіна павінна не толькі дзень высільвацца, але і яшчэ пералічыць дадаткова дзённы заробак? Многія нават з той зарплаты, якой па паўгода не бачаць? Адкуль гэта, калі адны робяць выгляд, што добраахвотна і добра працуюць, а другія — што ім добраахвотна аддаюць быццам бы зробленыя на гэткім суботніку грошы?

Пытанняў шмат. Адказаў шукаць не хочацца. Мацюкацца — брыдка. Што рабіць?

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ.**

## Забастоўка на рынку

**Прадпрымальнікі самага буйнога ў Гродне Паўднёвага рынку правялі аднадзённую забастоўку.**

Адміністрацыя з красавіка ладняла на 20% кошты гандлёвых месцаў. У прынцыпе гандляры плаціць не адмаўляюцца, але незадоўга перад гэтым сход прадпрымальнікаў запатрабаваў ад адміністрацыі падпісаць пагадненне, у якім агаворваліся б абавязкі абодвух бакоў, і даць тлумачэнне, на што выдаткуюцца сабраныя грошы ад арэнды. У прыватнасці, прадпрымальнікі не задаволеныя тым што тэрыторыя рынку не прыбіраецца. Яны таксама дамагаюцца, каб кіраўніцтва Паўднёвага выдзеліла памяшканне для прафсаюза. Пакуль ніводнае патрабаванне не выкананае.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## У наступ на Расію!

**Нядаўні рэйд магілёўскай абласной міліцыі на дарогах, што вядуць у Расію, чарговы раз пацвердзіў: беларусы вязуць на продаж «старэйшаму брату» харчы, харчы і харчы.**

Толькі за два дні затрымалі 23 аўтамабілі. Там было каля 50 тон мяса, больш за 10 тон бульбы, дзесяткі скрыняў з тварагом, згушчаным малаком, дражджамі, каўбасамі, смятанай ды крухмалам. Везлі ў Расію і дэсерт: 8,5 тоны розных ласункаў ад зефіру да халвы. А самы вялікі ўлоў быў спіртовы: затрыманы МАЗ вёз 12.000 бутэлек «Вермута» гомельскага разліву ў Санкт-Пецярбург.

Па прызнаннях саміх міліцыянтаў, яны ўжо стаміліся затрымліваць парушальнікаў харчовых кардонаў і не бачаць у гэтым ніякага сэнсу. Людзі кіруюцца здаровай логікай, вязуць у Расію, бо там можна ўсё гэта выгадна прадаць.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## «Талон таксічнасці» абароніць паветра?

**Пастаянна расце колькасць шкодных выкідаў у паветры Гомеля. Канцэнтрацыя асобных атрутных рэчываў перавышае норму нават у 25 разоў.**

Больш за 70% небяспечных выкідаў дае аўтатранспарт. У абласным цэнтры зарэгістравана 800 тысячаў транспартных адзінак. Летась Дзяржаўтаінспекцыя праверыла больш за 22 тысячы аўтамабіляў і высветліла, што кожны пяты (!) не ўкладаецца ў экалагічныя нормы. З парушальнікаў спагнаныя штрафы амаль у 2 мільярды рублёў, але ж чысцей ад гэтага не становіцца.

Гомельскі гарвыканкам прыняў рашэнне ўвесці ў горадзе своеасаблівыя «талоны таксічнасці». Такі талон каштуе 80 тысячаў рублёў і выдаецца на шэсць месяцаў на тыя транспартныя сродкі, якія прайшлі адпаведную тэхнічную рэгуліроўку. Аднак спецыялісты лічаць, што гэтая «індульгенцыя» не ўратуе горад, бо шкоднасць выхлапных газаў залежыць не толькі ад рэгуліроўкі рухавіка, але і ад якасці паліва. А тут ужо гарадскія ўлады нічога зрабіць не могуць.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Толькі бруднае малако

**У Гомельскай вобласці налічваецца, па меншай меры, 380 вёсак, дзе людзі пастаянна ўжываюць малако з перавышэннем дапушчальных нормаў утрымання радыенуклідаў.**

Як адзначалася на паседжанні Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, «на паперы» ўсе пашы і сенажаці гэтых вёсак «акультураныя», а таму перавышэння ўзроўню цэзію і стронцыю быць не павінна. Аднак на самой справе кіраўнікі калгасаў часта накіроўваюць «чарнобыльскія» грошы на зусім іншыя рэчы.

Напрыклад, дырэктар саўгаса «Краснае», што ў Брагінскім раёне, загадаў сялянам пасвіць сваіх кароў на забруджаных тэрыторыях. Афіцыйна выключаныя з гаспадарчага абароту землі выкарыстоўвае і калгас імя Гагарына: пасуць скаціну, нарыхтоўваюць сена. У выніку людзі спажываюць моцна забруджанае малако.

Вінаватых кіраўнікоў пакаралі: яны заплацілі штрафы — ад трох да пяці мінімальных зарплат.

**У.В.**





### *Зарплата*

Амаль 190 мільярдаў рублёў запазычылі сваім работнікам прадпрыемствы і арганізацыі Гомельскай вобласці, трэць гэтай сумы прыпадае на аб'яднанне «Гомсельмаш», дзе зарплата не выплачваецца па два месяцы.

### *Злачынствы*

З пачатку года ў Гомельскай вобласці зафіксавана амаль 2,5 тысячы выпадкаў арганізаванай злачыннасці. Аднак ствараецца ўражанне, што праваахоўныя органы больш займаюцца «ціхім» крыміналам. Амаль палову ўсіх выяўленых злачынстваў складае хабарніцтва, а трэцюю частку — крадзяжы ў асабліва буйных памерах.

### *Пасяўная*

75 прадпрыемстваў і арганізацыяў Гомеля заключылі дамовы з гаспадаркамі вобласці на аказанне шэфскай дапамогі. Да пасяўной кампаніі будуць прыцягнутыя не толькі людзі, але і машыны. Мяркуецца, што на «падшэфных» палях неўзабаве запрацуе 150 адзінак гарадской тэхнікі.

### *Рэкорд*

Рэкордную выручку ў 5 мільярдаў 100 мільёнаў рублёў прынёс гарадскому бюджэту Магілёва 15-ы аўкцыён па продажы аб'ектаў камунальнай уласнасці. Выстаўлялася пяць лотаў, пачатковыя цэны аб'ектаў складалі ад 150 мільёнаў да 1 мільярда 620 мільёнаў рублёў. Прададзены чатыры аб'екты, у тым ліку і склад-ангар, які выстаўлялі на продаж у чацвёрты раз. Выручаныя сродкі будуць накіраваныя на рамонт жыллёвага фонду горада.

### *Праект*

На базе Гродзенскага завода аўтамабільных агрэгатаў створанае сумеснае беларуска-расійскае прадпрыемства «Масквіч-Астра». Партнёрам гродзенцаў стаў маскоўскі завод АЗЛК, які выпускае аўтамабілі «Масквіч». СП зоймецца вырабам амартызацыйных стоек, асноўным спажыўцом будзе АЗЛК.

## Тры разы габрэй сядзе ў беларускую турму

**Супрацоўнікі магілёўскага КДБ арыштавалі колішняга жыхара Бабруйска. Гэты хітры дзядзька здолеў не адзін раз падмануць пашпартна-візавыя і пасольскія службы Беларусі, Ізраіля і ЗША.**

Як і многія іншыя нашыя землякі, у свой час ён выехаў у Ізраіль, як рэпатрыянт атрымаў там некалькі тысячаў амерыканскіх долараў «пад'ёмных». Яму спадабалася, і ён вырашыў атрымаць дармовыя грошы яшчэ раз. Новаспечаны ізраільцянін зноў вяртаецца ў Беларусь, каб стаць «іншым чалавекам». Падкупіўшы чыноўнікаў, ён дастае новыя дакументы.

Трэба адзначыць, што махінатару дапамагалі не толькі грошы, але і ўласныя выключныя здольнасці. Ён вельмі натуральна падробліваў многія паперкі — ад даведкі з радзільнага дома да выпіскі з ЗАГСа. Прайшоўшы ўсе фармальнасці, ізраільцянін зноў становіцца «беларускім» габрэем. Потым у другі раз прыязджае на зямлю абетаваную і атрымлівае яшчэ адно ізраільскае грамадзянства і новыя «пад'ёмныя». Натуральна, другім разам усё не скончылася.

У трэці раз прыязджае гэты ўжо двойчы рэпатрыяваны габрэй на прасторы былога Савецкага Саюза, але не адразу ў Беларусь. Пару месяцаў ён гастраляваў па Расіі, дзе «разбагацеў» яшчэ на некалькі пашпартаў і даведак. У Мінску ён паўтарыў усе свае аперацыі па падробцы дакументаў, але апетыты выраслі, і цяпер ён хоча з'ехаць ужо ў Злучаныя Штаты. Дакументы, як заўжды, зробленыя выдатна — і ў амбасадзе ЗША, куды ён звярнуўся з запрашэннем амерыканскіх габрэйскіх арганізацыяў, яму ставяць уязную візу.

І ўсё было б добра ў гэтага тройчы грамадзяніна розных краінаў — але падвяла, як звычайна, сквапнасць. Перад самым выездам у ЗША ён паабяцаў адной жанчыне, што купіць ёй за 3.000 долараў аўтамабіль у Ізраілі. Грошы атрымаў, а ў заклад пакінуў пашпарт. Пашпарт той яму быў ужо не патрэбны, было некалькі іншых, але чамусьці вырашыў забраць. Пайшоў да сваёй знаёмай з пісталетам, а тут як на злосць побач апынулася міліцыя... І замест Амерыкі — турэмная камера.

**Іван ЗАСАДА**

# Форд принуждал евреев трудиться

*Против второй в мире автомобильной компании выдвинут коллективный иск. General Motors на очереди*

В федеральный суд американского штата Нью-Джерси поступил коллективный иск к автомобильному концерну *Ford Motors Company*. Ему ставится в вину использование принудительного труда (военнопленных и заключенных концлагерей, особенно евреев) на германском заводе *Ford* в Кельне с 1941 по 1945 год. Иск был подан от имени бельгийской гражданки Эльзы Ивановой и других лиц, которых нацисты заставляли работать на *Ford*.

Инициаторы иска требуют выплаты компенсации, размер которой пока не назван. Коллективным иском руководит адвокат Мелвин Вейс, за которым в американском деловом мире давно закрепилась кличка mr. *Class Action*, то есть господин Коллективный Иск. Кстати, именно Вейс совместно с нью-йоркским адвокатом Эдвардом Фаганом вчинил знаменитый коллективный иск швейцарским банкам.

Мелвин Вейс известен также своими шумными и успешными процессами по коллективным искам против фондовых спекулянтов и нефтяного концерна *Exxon*. Эти процессы принесли ему много денег, значительную часть которых он жертвует на нужды Демократической партии США, являясь одним из самых крупных ее спонсоров.

## Генри Форд как антисемит

История с иском против кельнского завода имеет несколько своеобразных моментов.

Во-первых, это предприятие, хотя и принадлежало американскому клану Фордов, после начала войны Германии с США было конфисковано нацистскими властями и работало на военно-промышленный комплекс Германии.

Во-вторых, Генри Форд — основатель и тогдашний владелец всей корпорации (в том числе завода в Кельне) — был известен своими антисемитскими выступлениями, в том числе и в прессе. Вплоть до середины тридцатых годов он открыто симпатизировал Гитлеру (Форд даже был награжден германским орденом). В 1918 году он проиграл выборы в американский сенат, обвинил в этом избирателей-евреев и принялся издавать антисемитский журнал. В 1927 году Форду пришлось даже извиниться за антисемитскую пропаганду.

## Ford не хочет платить

Нынешнее руководство концерна *Ford* приводит против обвинений следующие доводы: после начала войны завод был взят под государственный контроль Германии, поэтому концерн был не в состоянии чтолибо изменить; хотя *Ford*, согласно договоренности, и должен был получать часть прибыли с кельнского завода, ему не было заплачено за все время войны ни цента; по директиве нацистского правительства все предприятия были обязаны использовать принудительный труд; условия труда и содержания рабочих на заводе *Ford* были куда лучше, чем на многих других предприятиях, также эксплуатировавших военнопленных и узников концлагерей; после окончания войны *Ford* инвестировал огромные суммы на восстановление разрушенной Европы и тем самым как бы искупил отсутствующую вину (германские заводы *Ford Werke* успешно действуют до сих пор).

Мелвин Вейс, впрочем, считает иск очень простым и не сомневается в своей победе. Более того, после нынешнего суда он намерен предъявить подобные иски крупнейшему концерну США *General Motors* и его германскому дочернему предприятию *Opel AG*, а также самому крупному промышленному холдингу ФРГ *Daimler Benz AG* и стальному концерну *Krupp*.

Все эти процессы могут принести крупные суммы как жертвам Холокоста, так и их адвокатам. Кстати, демократическая партия может рассчитывать на новые весомые пожертвования.

**Александр КАБОБЕЛЬ**

# Клинтон победил Полу и ловит Пол Пота

**Президент США Билл Клинтон, выигравший процесс у Полы Джонс, отдал распоряжение об аресте Пол Пота, бывшего лидера камбоджийских «красных кхмеров».**

70-летний Пол Пот находится под домашним арестом у своих же соратников в лагере Анлонг Венг на севере Камбоджи. США намерены привлечь Пол Пота, виновного в гибели 1 миллиона сограждан, к военному трибуналу. Для этого его планируется вывезти в третью страну, предположительно, Нидерланды, где традиционно судят военных преступников. Письменный приказ Клинтона поступил в Госдепартамент, министерства обороны и юстиции на прошлой неделе. Государственному департаменту поручено провести предварительные переговоры со странами, которые примут участие в аресте и суде над Пол Потом. Министерство юстиции обязано пересмотреть юридические полномочия, которые требуются для выполнения плана. Министерство обороны должно провести саму операцию.

# Китайский герой, враг Пекина

**Неизвестный человек, который в июне 1989 года в одиночку противостоял танковой колонне на площади Тяньаньмынь, жив и даже не был арестован во время подавления «Пекинской весны».**

Как сообщает агентство *France Press*, китайские власти так и не смогли найти этого человека, который стал известен миру благодаря фото- и телерепортерам. Напомним, что американский журнал *Time* только что включил неизвестного бунтаря в число двадцати самых ярких руководителей и революционеров 20-го века. По мнению журнала, этот человек известен миру лучше, чем Уинстон Черчилль, Альберт Эйнштейн и Джеймс Джойс вместе взятые. Даже те, кто не умеют читать, увидели, что сделал этот человек. Китайские власти тоже использовали эти кадры, чтобы доказать тезис о сдержанности военных. Правда, на смену сдержанности вскоре пришло насилие, только в Пекине были убиты несколько сотен человек. После этого волна казней без суда и следствия прокатилась по всей стране.

Недавно новый китайский премьер Чжу Жонцзы отмёл всякую возможность пересмотра официальной точки зрения на эти выступления молодежи как на контрреволюционные.

# Никаких босых в парламенте!

**Парламент Королевства Непал принял постановление о внешнем виде депутатов.**

Отныне на заседаниях разрешается появляться только в традиционной непальской одежде, а это узкие брюки, широкая рубашка, пиджак и головной убор. Необходимость такого постановления генеральный секретарь парламента объясняет тем, что народные избранники одевались уж очень раскованно. Некоторые являлись на заседания в джинсах, шлепанцах, и даже босиком. Правда, никаких санкций для возможных нарушителей в постановлении не предусмотрено.

# Пещера манит янтарем

**Известный немецкий кладоискатель считает, что наступил заключительный этап поисков Янтарной комнаты, пропавшей во время Второй мировой войны.**

Оптимиста зовут Гельмут Гайнцел, и он считает, что Янтарная комната, которую нацисты вывезли из бывшей царской резиденции в пригороде Петербурга, *«с вероятностью 99%»* находится в Северной Чехии. *«Специальное подразделение SS спрятало ее в одной из шахт, расположенных в Рудных горах. В послевоенные десятилетия это был закрытый район, и поэтому я рассчитываю обнаружить комнату в целости и сохранности»*, — заявил он.

Имеющиеся у Гайнцела документы и свидетельства очевидцев подтверждают то, что Янтарная комната спрятана именно в той шахте, которую он собирается «досконально обследовать». Первый спуск в нее должен быть осуществлен на этой неделе. *«Надеюсь на Божью помощь, так как не знаю, какие «сюрпризы» оставили нацисты»*, — подчеркнул кладоискатель. Вход в шахту забетонирован. В нее, как предполагает Гайнцел, последними спускались эсэсовцы, доставившие туда ящики, в которые упакованы фрагменты Янтарной комнаты.

Между тем большинство чешских ученых скептически относятся к деятельности Гайнцела, который в последние годы активно занимается поисками кладов на территории Чехии. Они считают, что достоверных фактов о местонахождении Янтарной комнаты именно в этой стране не существует.

# Субботник по-американски

**Оригинальным образом отметил недавно свой 50-летний юбилей вице-президент США Альберт Гор.**

Облачившись в джинсы и футболку, он вместе с супругой Типпер, 40 служащими своего офиса и добровольцами из нескольких благотворительных организаций принял участие в субботнике в одном из беднейших негритянских районов Вашингтона — Анакостии.

Подбадриваемые задушевными мелодиями чернокожих музыкантов, а также хитами *Beatles* и *Rolling Stones*, волонтеры во главе с вице-президентом возводили стены и вставляли окна будущего дома, где вскоре сможет поселиться негритянская семья. Организация «Жилище для человечества» выделила им для покупки «дома, который построил Гор», беспроцентный кредит сроком на 25 лет. Правда, сами владельцы также должны будут провести на общественных работах не менее 500 часов.



*Альберт Гор в присутствии священника заверил публику, что идет строить дом для негров исключительно добровольно и не преследует никаких личных целей.*

После субботника служащие аппарата вице-президента поздравили своего шефа с юбилеем, спев традиционную песенку *Happy birthday to you* и зачитав шутливое приветствие, подготовленное его «спич-райтерами». В качестве одного из главных подарков Гору была вручена видеокассета, на которой оказались собраны забавные эпизоды из жизни человека номер два в американской правительственной иерархии. По слухам, она пришлась ему весьма по вкусу: Гор, обладающий неплохим чувством юмора, не раз демонстрировал, что умеет посмеяться не только над другими, но и над собой.

В целом же, судя по высказываниям вице-президента, в последние дни его обуяли прямо-таки философские настроения. *«Я смотрю на это не как на 50 лет, а как всего лишь на одну двадцатую часть тысячелетия»*, — с улыбкой на глубокомысленном лице сказал юбиляр.

**Иван ЛЕБЕДЕВ**

# Стреляют в голубей, чтобы спасти алмазы

**Самые обычные почтовые голуби имеют все шансы попасть в Красную книгу ЮАР. Им грозит поголовный отстрел.**

Причина проста: преступники, крадущие алмазы с приисков, используют птиц как сообщников. Мешочек с украденными драгоценными камнями крепится к лапке, и голубь взмывает над собаками, охранниками, заборами, колючей проволокой, благополучно минуя все хитроумные системы защиты, чтобы приземлиться в потаенном месте, известном только ее хозяину. Крылатый способ умыкания алмазов давно тревожил власти ЮАР. А после того, как с помощью невинных голубков преступники едва не разорили государственную алмазодобывающую компанию «Алекскор», проблемой занялся парламент. Недолго думая, законодатели в самом что ни на есть прямом смысле слова пожелали контрабандистам «ни пуха, ни пера». Согласно принятому ими закону, отныне, едва завидев пернатого гонца, охрана приисков обязана открывать огонь на поражение.

*Подготовил*
**Ростислав ПЕРМЯКОВ**




*У мінулую нядзелю ў Беларусі ўсе дарогі вялі ў храм.*

*Ва ўсім свеце вернікі-каталікі адзначалі галоўнае хрысціянскае свята — Уваскрасенне Хрыстова. У нашай краіне больш як 400 рымска-каталіцкіх парафіяў, некалькі ўніяцкіх. Да каталікоў Беларусі з пастырскім пасланнем звярнуўся кардынал Казімір Свёнтэк, яно прагучала падчас урачыстых набажэнстваў. Ксяндзы ў святочных белых строях (альбах) і вернікі ішлі традыцыйным хросным ходам — з харугвамі, свечкамі, выявамі Сына Божага. У гэты ж дзень святкавалі і прадстаўнікі шматлікіх пратэстанцкіх абшчынаў. Хрыстос уваскрос!*

*У праваслаўных у нядзелю была Вербніца. Велікодныя святкаванні яшчэ наперадзе, на гэтым тыдні — самы строгі пост і самыя шчырыя малітвы. Але амаль у кожным доме пра светлае свята Уваскрасення Хрыстова ўжо нагадвае пасвянцоная ў царкве вербачка. Галінкамі вярбы беларусы па традыцыі сімвалічна тройчы лупцавалі адзін аднаго, жадаючы найперш здароўя: «Не я б'ю — вярба б'е, за тыдзень — Вялікдзень!»*

*На здымках: пачатак урачыстай працэсіі ў касцёле святых Сымона і Алены (зверху); асвячэнне вярбы пры Свята-Духавым кафедральным саборы ў Мінску.*




# Даты і лёсы

## 14 красавіка

**1865.** Падчас спектакля ў вашынгтонскім тэатры Форда акцёр Джон Бут параніў з рэвальвера прэзідэнта ЗША Абрахама Лінкальна, які праз дзень памёр. Буту ўдалася ўцячы. Праз два тыдні тэрарыст загінуў у перастрэлцы з паліцыяй.

**1903.** Амерыканскі лекар Гары Плотц адкрыў вакцыну супраць тыфусу.

**1917.** Памёр варшаўскі доктар-акуліст Лазар Людвіг Заменгоф, які ў 1887 г. прыдумаў штучную мову эсперанта.

**1930.** Застрэліўся паэт Уладзімір Маякоўскі. Незадоўга перад смерцю ён сказаў: *«Калі хочаце засушыць кветку — зрабіце гэта пакуль яна яшчэ не страціла водар»*.

**1918.** З'езд Саветаў заходніх губерняў Расіі прыняў рашэнне пра стварэнне Заходняй вобласці ў складзе Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў з цэнтрам у Смаленску. З'езд асудзіў захады Рады БНР па стварэнні незалежнай беларускай дзяржавы і адмовіўся прызнаць права беларускага народа на самавызначэнне.

**1978.** Вярхоўны Савет БССР прыняў апошнюю савецкую («брэжнеўскую») канстытуцыю рэспублікі.

## 15 красавіка

**1912.** Найвялікшы акіянскі лайнер таго часу «Тытанік» сутыкнуўся з айсбергам і патануў. З 2.206 пасажыраў і членаў каманды ўратаваліся толькі 732 чалавекі. Гэта, дарэчы, быў першы выпадак у гісторыі марахоцтва, калі тонучы карабель выклікаў дапамогу па радыё. На жаль, не дапамагло.

**1923.** У Нью-Йорку адбыўся прэм'ерны паказ першых кінафільмаў з гукам — гэта былі кароткаметражныя мюзіклы.

**1970.** Японскі канцэрн *Сапоп* абвесціў, што распачынае выпуск першых кішэнных калькулятараў.

**1980.** Памёр знакаміты французскі філасоф-экзістэнцыяліст Жан-Поль Сартр. Вечны бунтар, ён адмовіўся не толькі ад Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 1964 г., але і ад пахавання за дзяржаўны кошт. Праводзіць філасофа ў апошні шлях прыйшлі больш за 50.000 чалавек.

**1988.** Прэзідэнт Паўночнай Карэі Кім Ір Сен атрымаў на дзень нараджэння 43.000 падарункаў, у тым ліку эксклюзіўную кнігу — пераклад ягоных прамоваў на арабскую мову.

## 16 красавіка

**1828.** Памёр вялікі іспанскі мастак Франсіска Гойя. Апошнія гады ён пражыў у эміграцыі, бо не хацеў трапіць на радзіме пад суд інквізіцыі за «богапрацiўныя» карціны.

**1867.** Нарадзіўся амерыканскі піянер авіяцыі Ўілбур Райт. Першы ў гісторыі самалёт ён сабраў разам з малодшым братам Орвілам у майстэрні па рамонту ровараў.

**1917.** На Фінляндскі вакзал Петраграда прыйшоў цягнік з рускімі палітэмігрантамі. Ленін змяніў еўрапейскі капялюш на пралетарскую кепку і выступіў з браневіка перад салдатамі і рабочымі з «красавіцкімі тэзісамі» — аблаяў бальшавікоў за нерашучасць, адмовіўся падтрымліваць Часовы ўрад і высунуў лозунг «Уся ўлада Саветам!» Назаўтра Ленін упершыню заклікаў натоўп да сацыялістычнай рэвалюцыі.

**1928.** Драматург, акцёр і рэжысёр Еўсцігней Міровіч першым у Беларусі быў адзначаны ганаровым званнем заслужанага артыста. У 1919–1945 гг. Міровіч быў мастацкім кіраўніком многіх мінскіх тэатраў.

**1940.** Памёр бацька Максіма Багдановіча — вядомы беларускі этнограф і лінгвіст Адам (Адольф) Багдановіч.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Хто самы высокі чалавек?

**Амерыканскі цырк «Барнум і Бэйлі» спрачаецца з Кнігай рэкордаў Гінэса наконт таго, хто самы высокі чалавек на Зямлі.**

Кніга Гінэса адстойвае кандыдатуру паўночнакарэйскага баскетбаліста Майкла Ры, ростам 2 метры 36 сантыметраў. Прадстаўнікі цырка лічаць, што самым высокім чалавекам павінен быць афіцыйна прызнаны іхні артыст — пакістанец Аранджэб Хан. Ягоны рост складае 2 метры 44 сантыметры, але па нейкай прычыне цырк не дазваляе ўрачам з Кнігі Гінэса змерыць велікана. «Мы — сусветна вядомае шоу, і вы нам не верыце?» — абураюцца прадстаўнікі цырка. Хан можа служыць жывой ілюстрацыяй іх словаў. Пры велізарным росце ягоная вага складае 191 кілаграм і носіць ён абутак 53 памеру. Дзеці калі-нікалі пытаюцца ў яго: «Дзядзя, а ты сапраўдны?»

# Сабачы закон

**Кабінет міністраў Францыі зацвердзіў законапраект аб забароне развядзення, увозу і продажу байцовых сабакаў.**

Цяпер дзяржава будзе кантраляваць колькасць сабакаў такіх пародаў, як пітбультэр'еры і ратвейлеры. У выніку такіх захадаў на працягу бліжэйшых 10 гадоў гэтыя сабакі ўвогуле могуць знікнуць у Францыі. Парушальнікам закона, за выкананнем якога збіраюцца строга сачыць праваахоўныя органы, пагражае турэмнае зняволенне тэрмінам да трох гадоў або штраф да 50.000 франкаў (амаль 10.000 долараў).

Законапраект практычна аднадушна падтрымалі жыхары Францыі, уключаючы членаў асацыяцыі сабакаводаў, бо ў краіне штогод адбываецца каля 70 тысячаў няшчасных выпадкаў рознай цяжкасці, звязаных з нападамі і ўкусамі сабакаў менавіта гэтых пародаў. Аднак некаторыя французы лічаць, што законапраект супярэчыць еўрапейскім нормам, і збіраюцца адстойваць свае правы ў самых высокіх інстанцыях.

# Чаго баяцца маладыя?

**Сацыялагічнае апытанне на гэтую тэму праводзілася сярод моладзі горада Рагачова.**

Высветлілася, што маладыя людзі найбольш баяцца стаць інвалідамі і быць прыкаванымі да ложка. На другім месцы — страх захварэць на СНІД, на трэцім — боязь выжыць з розуму. Акрамя таго, многія дзяўчаты баяцца нападу крымінальнікаў. Пры гэтым большасць маладых усё ж адчувае сябе даволі спакойна, бо ніколі з сапраўднай небяспекай не сутыкалася. Тым не меней 80% апытаных школьнікаў хацелі б мець якую-небудзь зброю (газавую або агнястрэльную).

Сярод прафесіяў маладыя аддаюць перавагу прафесіям бізнесоўца, юрыста, эканаміста і ўрача. Амаль ніхто не хоча быць рабочым, інжынерам або вайскоўцам. Сацыёлагі сцвярджаюць, што Рагачоў — тыповы беларускі правінцыйны горад, і гэтыя звесткі можна лічыць паказальнымі для ўсіх невялікіх гарадоў Беларусі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Прыдумай сваю «машыну часу»

**Афіцыйна пачаўся Рэспубліканскі конкурс аўтадызайну «Машына часу-98».**

Конкурс гэты праводзіцца ўжо чацвёрты год запар і дае магчымасці паспаборнічаць таленавітым маладым людзям, якія цікавяцца аўтамабілямі і аўтамабільным дызайнам. Сёлета ўдзельнікі будуць сапернічаць у дзвюх намінацыях — «Аўтамабіль у горадзе» і «Грузавы аўтамабіль будучыні».

Конкурс аўтадызайну з кожным годам становіцца ўсё больш папулярным і аўтарытэтным. Так, калі ў 1995 годзе былі прадстаўленыя ўсяго некалькі арыгінальных работ, сёлета ў конкурсе бяруць удзел больш як 200 аўтараў з усіх абласцей краіны, яны прыслалі арыгінальныя работы высокага ўзроўню выканання. Упершыню ўдзельнікамі конкурсу сталі дзяўчаты.

Па традыцыі канкурсанты падраздзяляюцца на дзве ўзроставыя катэгорыі — да 16 гадоў і ад 17 да 21 года ўключна. Спачатку журы разгледае праекты завочна, а пасля ўдзельнікі, якія пройдуць у фінальны тур, будуць асабіста абараняць свае ідэі і выкананні. Усю дадатковую інфармацыю аб конкурсе можна даведацца ў арганізатараў — газет «АВТОбізнес-weekly» і «Переходный возраст».

Генеральным спонсарам «Машыны часу-98» стала замежнае прадпрыемства «Аўтахаус Атлант М» — афіцыйны прадстаўнік нямецкага канцэрна *Volkswagen*. Ці не таму, што, як лічаць многія эксперты, аўтамабілі гэтай маркі надзейныя і эканамічныя, але саступаюць канкурэнтам у дызайне?

*БелаПАН*

# Тэлефонны тэрарыст, кінь дурное!

## *У тэлефоне-аўтамаце не схаваешся*

У мінулую пятніцу гродзенская міліцыя і сапёры зноў выязджалі па трывозе. Невядомы мужчына патэлефанаваў у Гродзенскі ліцэй № 1 і папярэдзіў, што ў будынку нібыта знаходзіцца выбуховая прылада. Заняткі адразу спынілі. Аднак пошукі вынікаў не далі.

Увогуле за мінулы месяц брыгада сапёраў выязджала некалькі разоў — у тры гродзенскія школы і сельскагаспадарчы інстытут. Адзін з «дыверсантаў» — школьнік — быў выкрыты. Цяпер усе гарадскія тэлефоны-аўтаматы пранумаравалі, каб можна было высвятліць, з якога паступіў званок.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

**Эдынбургскі Еўрапейскі Майстар-клас**

## Конкурс

**Еўрапейскі маладзёжны парламент абвяшчае конкурс — пераможца будзе прадстаўляць Беларусь на Эдынбургскім міжнародным фестывалі разам з 40 маладымі талентамі з іншых краінаў Еўропы і атрымае ўнікальную магчымасць удзельнічаць у працы майстар-класа музыкі або тэатра.**

**Фестываль адбудзецца з 28 ліпеня па 17 жніўня ў Эдынбургу — сталіцы Шатландыі. Арганізатары бяруць на сябе ўсе выдаткі, звязаныя з праездам і пражываннем аднаго пераможцы.**

**ПАТРАБАВАННІ:**

- **твой узрост — 17–21 год;**
- **ты адчуваеш сябе таленавітым і творчым чалавекам;**
- **ты акцёр, і маеш сцэнічны досвед; або ты музыкант, і свабодна іграеш з ліста;**
- **ты вольна гаворыш па-беларуску, па-англійску і па-руску;**
- **ты можаш годна прадстаўць культурную спадчыну Беларусі.**

**Калі гэта так, то сваю заяўку ў адвольнай форме — абавязкова па-англійску! — прынясі або дашлі ў Міжнародны Сахараўскі інстытут: Мінск, вул. Даўгабродская, 23; тэл./факс — 2 306 888. Конкурсную камісію ўзначальвае доктар Алан Флаўэрс (Alan Flowers).**

**Апошні тэрмін падачы заявак — 17 красавіка. Сумоўе з вызначанымі кандыдатамі для вызначэння пераможцы адбудзецца 20 красавіка.**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1176 Нумар падпісаны ў друк 13.04.98 (15:00) Наклад — 19.400